Гродна
№16 (522),
15 верасня 2019

www.slowo.grodnensis.by

Слова Жыцця
ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# АДПАЧЫІЎШЫ Ў БОГУ

**ЗА ПЛЯЧАМІ ЗАСТАЛОСЯ ЛЕТА. ГЭТУЮ ПАРУ ЯШЧЭ ЧАСТА НАЗЫВАЮЦЬ "МАЛЕНЬКІМ ЖЫЦЦЁМ", БО ЯНА ПОЎНІЦЦА РОЗНЫМІ АКТЫЎНАСЦЯМІ, ЗДАРЭННЯМІ, ЗНАЁМСТВАМІ. СЯРОД ТАКОЙ НАСЫЧАНАСЦІ ЧАСАМ МОЖНА ЗАГУБІЦЦА АБО НЕСПАДЗЯВАНА ЗРАЗУМЕЦЬ, ШТО ТАК І НЕ ЎДАЛОСЯ АДПАЧЫЦЬ ПА-САПРАЎДНАМУ: ГАЛАВА ПОЎНАЯ ЦЯЖКІХ ДУМАК, А НА СЭРЦЫ НЯМА ЛЁГКАСЦІ. МЫ ЯК ХРЫСЦІЯНЕ ПАВІННЫ ПАМЯТАЦЬ, ШТО ЗАЎСЁДЫ МАЕМ МАГЧЫМАСЦЬ НАБРАЦЦА СІЛ У БОГА. КАСЦЁЛ У СВАЮ ЧАРГУ ПРАПАНУЕ ШМАТЛІКІЯ ВАРЫЯНТЫ ТАГО, ЯК МОЖНА ПРАВЕСЦІ СВОЙ ВОЛЬНЫ ЧАС УЛЕТКУ. ЧЫМ НЕ ПРЫВАБНЫ КАТАЛОГ АД НЯБЕСНАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ?**

працяг на с. 4







"Усе пакліканы адшукаць у сям'і здзяйсненне любові". Папа Францішак

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### XXIV ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Лк 15, 1–10**

Набліжаліся да Езуса ўсе мытнікі і грэшнікі, каб паслухаць Яго. А фарысеі і кніжнікі наракалі, кажучы: “Ён прымае грэшнікаў і есць з імі”. Але Езус расказаў фарысеям і кніжнікам наступную прыпавесць, кажучы: “Хто з вас, маючы сто авечак і згубіўшы адну з іх, не пакіне дзевяноста дзевяці ў пустыні і не пойдзе па згубленую, пакуль не знойдзе яе? А знайшоўшы, возьме яе на плечы свае з радасцю і прыйдзе дадому, пакліча сяброў і суседзяў, кажучы ім: «Радуйцеся са мною, бо я знайшоў маю згубленую авечку». Кажу вам, што таксама на нябёсах больш радасці будзе з аднаго грэшніка, які пакаяўся, чым з дзевяноста дзевяці праведнікаў, якія не патрабуюць пакаяння. Ці якая жанчына, маючы дзесяць драхмаў і згубіўшы адну драхму, не запаліць свечкі і не пачне вымятаць дом і пільна шукаць, пакуль не знойдзе? А знайшоўшы, пакліча сябровак і суседак ды скажа: «Цешцеся са мною, таму што я знайшла згубленую драхму». Так, кажу вам, бывае радасць у анёлаў Божых і за аднаго грэшніка, які каецца”.

### АДКРЫЦЦА НА БОЖУЮ МІЛАСЭРНАСЦЬ

Евангелле багатае на прыклады, якія паказваюць, што незалежна ад таго, як мы “насваволілі” ў жыцці, Бог заўсёды гатовы кінуць нам, як тапельцам на глыбіні, выратавальны круг. У словах Езуса, скіраваных да грэшнікаў, заўсёды прасочваецца думка аб прабачэнні, якое грунтуецца на любові.

Нябесны Айцец радуецца навяртанню чалавека, як пастыр, што адшукаў адну згубленую авечку, як жанчына, што знайшла зніклую драхму, як міласэрны айцец, да якога пасля доўгай вандроўкі вярнуўся сын… Аблічча Пана не бывае закрытым, даступным толькі групе выбраных. Бог бязмежна міласэрны да кожнага!

У жыцці мы неадночы атрымліваем раны, пераживаем падзенні, становячыся ахвярамі зла і граху, якому паддаліся іншыя людзі. Здараецца таксама, што гэта мы з’яўляемся тымі, хто крыўдзіць. Нягледзячы на тое, на якім баку аказаліся – сталі той згубленай авечкай ці адной са статка, якая засталася вернай Пастыру, – адкрыйма нашы сэрцы на Божую міласэрнасць.

**Ці здольны я адказваць на Божую міласэрнасць?**

**У якіх сітуацыях Божая міласэрнасць з’яўляецца маім выратавальным кругам?**

### XXV ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Лк 16, 1–13**

Езус казаў сваім вучням: “Адзін багаты чалавек меў эканома, на якога данеслі яму, што растрачвае маёмасць яго. Той, паклікаўшы яго, сказаў яму: «Што гэта я чую пра цябе? Зрабі справаздачу пра кіраванне сваё, бо ўжо не можаш быць эканомам». Тады эканом сказаў сам сабе: «Што мне рабіць, бо гаспадар мой адбірае ў мяне кіраўніцтва домам? Капаць не маю сіл, жабраваць саромеюся. Ведаю, што зраблю, каб людзі прынялі мяне ў дамы свае, калі адхілены буду ад кіраўніцтва домам». Паклікаўшы асобна кожнага з даўжнікоў свайго гаспадара, ён сказаў першаму: «Колькі ты павінен гаспадару майму?». Той сказаў: «Сто кадзяў алею». Тады сказаў яму: «Вазьмі сваю распіску, сядай хутчэй і напішы пяцьдзесят». Потым другому сказаў: «А ты колькі павінен?». Той сказаў: «Сто кор пшаніцы». І яму сказаў: «Вазьмі сваю распіску і напішы восемдзесят». І пахваліў гаспадар несправядлівага эканома, што ён разумна ўчыніў. Бо сыны гэтага веку мудрэйшыя за сыноў святла ў адносінах да свайго пакалення. І Я кажу вам: здабывайце сяброў сабе несправядлівай мамонай, каб, калі яна праміне, прынялі вас у вечныя шатры. Верны ў малым і ў вялікім верны, а несправядлівы ў малым несправядлівы і ў вялікім. Таму калі вы ў несправядлівай мамоне не былі вернымі, хто даручыць вам сапраўднае? І калі ў чужым не былі вернымі, хто дасць вам вашае? Ніякі слуга не можа служыць двум гаспадарам, бо ці аднаго будзе ненавідзець, а другога любіць, ці аднаго будзе трымацца, а другім пагарджаць. Не можаце служыць Богу і мамоне”.

### ЗАДУМАЦЦА НАД БУДУЧЫНЯЙ

У прыведзеным фрагменце Евангелля Хрыстос падкрэслівае прадбачлівасць эканома, які даведаўся, што хутка страціць працу за надобрасумленнае выкананне абавязкаў. Занепакоены сваёй будучыняй, ён прыдумаў хітры план – учыніць паводле правіла “рука руку мые”.

Нас можа здзівіць, што Езус пахваліў учынак вынаходлівага героя. Аднак Збаўца не апраўдвае падман, не заахвочвае нас рабіць “брудныя” справы. Станоўчай ацэнкі заслугоўвае прадбачлівасць несправядлівага чалавека, паколькі яна была выклікана клопатам пра будучыню. Указваючы на мудрасць сыноў гэтага веку, Хрыстос засцерагае ад жыцця без думак пра будучыню.

Варта памятаць, што самая небяспечная пагроза заўтрашняга дня – гэта не голад, не знішчанае асяроддзе і не атамная катастрофа, а – як вучыць Езус – вечны нябыт.

**Ці клапачуся пра збаўленне сваёй душы?**

**Што раблю сёння, каб мая вечнасць была шчаслівай?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Ставіць патрабаванні

*Сёлетнія канікулы ўжо за плячамі. Адпачыўшы, можам з павялічанай энергіяй вярнуцца да пакінутых задач.*

Новы навучальны і катэхетычны год – гэта новыя шанцы, новыя магчымасці, новы досвед, гэта нагода, каб узяцца за працу над сабой. Цяжка рэалізаваць такія мэты, не змяняючыся. Таму варта не баяцца кожны раз ставіць перад сабой новыя задачы і патрабаванні.

Мы жывём у часы, калі дамінуе г. зв. “выхаванне без стрэсу”. Яго тэзісы не маюць у сабе нічога дрэннага, нават наадварот – яны вельмі разумныя: лепш размаўляць з дзецьмі, чым крычаць на іх, тлумачыць, чым бясспрэчна забараняць, а прымяняць цялеснае пакаранне не лепшы выхад. Аднак гаворка ідзе не аб дазволе дзецям усяго, чаго хочуць, а аб тым, каб дапамагчы ім убачыць межы. Для гэтага бацькам трэба спачатку акрэсліць для саміх сябе, што правільна, а што не. Хто не патрабуе ад сябе, не здолее ставіць здаровыя патрабаванні перад іншымі. Хто не ўмее выразна вызначыць межы паміж дабром і злом у сваім жыцці, не навучыць сына ці дачку, як выбіраць самае каштоўнае.

Патрабаванні да дзяцей рознага ўзросту адрозніваюцца. Аднак заўсёды неабходна знаходзіць для кожнага час і цярплівасць. Калі гэтага не хапае, лягчэй за ўсё звярнуцца да паставы “зрабі гэта, бо я так кажу” або “ідзі ў свой пакой і не дуры мне галаву”. На жаль, для многіх важна толькі тое, каб дзеці былі паслухмянымі, што на практыцы азначае, “каб не перашкаджалі” ці “каб ніхто на іх не скардзіўся”.

Часам у бацькоў можна сустрэць таксама падыход “каб дзіця было задаволена” або “няхай хоць яно мае тое, чаго я ў сваім дзяцінстве не меў”. У маленькага чалавека ёсць тады многае – найперш матэрыяльныя рэчы. Многае! Але яму не стае найважнейшага – увагі сваіх бацькоў, іх любові і выразных падказак, як рабіць правільны выбар у сваім жыцці.

“Вы павінны патрабаваць ад сябе, нават калі іншыя ад вас не патрабуюць” – гаварыў св. Ян Павел ІІ. Гэтыя словы часта становяцца выправаваннем сумлення для дарослых, а ў першую чаргу для бацькоў-хрысціян. Ускосна заклікаюць да таго, каб мы не пакідалі дзяцей і моладзь сам-насам з сабой, каб спадарожнічалі ім, каб клапаціліся аб іх рэлігійным выхаванні.

**Дарагія Чытачы!**

Дзякуйма Богу за бацькоў, якія здольны растлумачыць сваім дзецям, што добра, а што дрэнна. Дзякуйма за бацькоў, якія ставяць перад дзецьмі патрабаванні і цярпліва паказваюць ім правільны шлях. Дзякуйма за бацькоў, якія любоў да дзяцей разумеюць не як выкананне іх капрызаў, а як прышчапленне сапраўдных каштоўнасцей. Няхай такіх бацькоў будзе як мага больш!

## ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ
## ПЕРШЫ СІНОД ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Камісія па справах агульнага і спецыялізаванага душпастырства

Касцёл абвяшчае Божае слова, каб Добрая Навіна пра збаўленне пашыралася ва ўсе бакі свету; цэлебруе сакраманты, каб жывы Езус прасякаў людскую штодзённасць; здзяйсняе паслугу любові (caritas) і сведчанне хрысціянскага жыцця, каб ахінаць клопатам асабліва тых, хто “хворы” (параўн. Мц 9, 12). Асноўнай задачай, незалежна ад часу і акалічнасцей, з’яўляецца адкрыццё чалавека на асабістую сустрэчу з Хрыстом, “тым самым учора, і сёння, і навекі” (Гбр 13, 8). Касцёл рэалізуе гэтую місію праз арганізаваную збаўчую дзейнасць, называемую душпастырствам. Яго мэта палягае на суправаджэнні людзей, што жывуць “тут і цяпер”, да сустрэчы з Богам у веры, надзеі і любові.

Члены Сінадальнай камісіі па справах агульнага і спецыялізаванага душпастырства прызнаюць актуальнасць выпрацаванай на працягу стагоддзяў мадэлі душпастырскага Касцёла. З увагай ставіцца да выклікаў і знакаў часу, якія здаўна служаць паглыбленню веры людзей у Найсвяцейшую Тройцу, іх духоўнаму ўзрастанню і асвячэнню, а таксама будаванню сапраўднай евангельскай хрысціянскай супольнасці.

Вернікам, якія прагнуць узбагаціць сваё рэлігійнае жыццё не так, як гэта падаецца ў агульным душпастырстве, Касцёл прапануе розныя формы спецыялізаванага душпастырства, называемага надзвычайным. Яно дастасуецца да інтэлектуальнага і духоўнага ўзроўню зацікаўленых асоб, беручы пад увагу іх узрост, адукацыю і род дзейнасці. Сёння ў Гродзенскай дыяцэзіі функцыянуюць наступныя спецыялізаваныя душпастырствы: акадэмічнае, душпастырства настаўнікаў і выхавацеляў, моладзі, дзяцей, скаўтаў, літургічнай службы алтара, службы аховы здароўя, спорту, вязняў, чыгуначнікаў, сем’яў, глуханямых, залежных людзей і цвярозасці, пілігрымак.

Камісія адзначае, што спецыялізаванае душпастырства не можа знаходзіцца ў абсалютным прыярытэце і з’яўляцца мэтай самой па сабе. Яно, хутчэй, павінна дапамагаць агульнаму душпастырству і дапаўняць духоўныя даброты, якія часта застаюцца незаўважанымі, каб такім чынам глыбей укараніць усіх вернікаў у супольнасць Касцёла, у яшчэ большай ступені ўзбагачаючы яго шматкаляровасцю і разнастайнасцю форм хрысціянскага жыцця.

Камісія заўважае, што найважнейшым месцам душпастырскай дзейнасці з’яўляецца парафія, кіруемая пробашчам. Усе члены лакальнага Касцёла павінны актыўна ўключацца ў рэалізацыю мерапрыемстваў на карысць супольнасці. Гэтае супрацоўніцтва мае вялікае значэнне для духоўнага і арганізацыйнага жыцця парафіі ў цэлым.

Сінадальная камісія звяртае ўвагу таксама на санктуарыі, якія існуюць на тэрыторыі дыяцэзіі. Падкрэслівае, што душпастыры, якія апекуюцца імі, павінны нястомна дбаць пра тое, каб пілігрымы маглі слухаць Божае слова, прыступаць да сакраманту пакаяння, удзельнічаць у св. Імшы і паглыбляць свае рэлігійныя веды. Кусташу санктуарыя належыць, па меры магчымасцей, паклапаціцца пра адпаведныя памяшканні для адпачынку, спажывання пасілку і начлегу пілігрымаў.

Молімся, каб Святы Дух асвятляў розумы і сэрцы вернікаў і душпастыраў, каб мелі ў сабе нязгасны запал да развіцця касцёльнай супольнасці на Божую хвалу.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Сям'я як школа святасці



*Першая школа святасці – гэта хрысціянская сям'я. Яна з'яўляецца найважнейшым месцам фарміравання характару і свядомасці кожнага чалавека. Яна першая вучыць правільным адносінам да веры: вузы адзінства і любові, якія злучаюць членаў сям'і, натхняюць да шукання Бога і адкрыцця на Яго.*

*Шмат дачок і сыноў былі абвешчаны святымі менавіта дзякуючы захаванню каштоўнасцей, перададзеных вернымі Стварыцелю бацькамі. Узносячы іх да хвалы алтара, Касцёл паказвае вызнаўцам Хрыста прыклад для пераймання, а таксама прыгадвае, што праз заступніцтва святых і блаславёных можна атрымаць дапамогу і ласку ад Усемагутнага.*

*Няхай 10 прыведзеных гісторый стануць чарговым доказам таго, што сям'я – гэта першая школа святасці.*

### СВСВ. ЯЎХІМ І ГАННА – БАЦЬКІ НАЙСВЯЦЕЙШАЙ ПАННЫ МАРЫІ

Хрысціянская традыцыя апісвае бацькоў Марыі як тактоўнае, спакойнае сужэнства. Яўхім і Ганна былі багаబаязнымі, падтрымлівалі блізкія адносіны з Усемагутным. Свой здабытак дзялілі на 3 часткі: адну прызначалі на ўтрыманне святыні, другую ахвяроўвалі патрабуючым, а трэцюю пакідалі сабе.

Выхоўвалі Марыю ў ласцы, якой Бог адарыў Яе. Паколькі бабуля і дзядуля Хрыста ўдзельнічалі ў таямніцы Уцелаўлення, сёння ўсе бабулі і дзядулі даручаюцца іх апецы.

### СВ. АЛЬЖБЕТА – МАЦІ СВ. ЯНА ХРЫСЦІЦЕЛЯ

Альжбета і яе муж Захарыя "былі справядлівымі перад Богам, жывучы беззаганна паводле ўсіх запаведзяў і наказаў Пана. Але не мелі дзіцяці, бо Альжбета была бясплодная; былі яны ўжо ў старым узросце" (Лк 1, 6). У тагачасным грамадстве адсутнасць патомства ўспрымалася як пакаранне ад Бога за ўчыненыя грахі. Гэта таксама магло служыць прычынай для разводу. Аднак Захарыя не аддаліў сваю жонку. І Стварыцель выслухаў іх малітвы, даючы сына – Яна Хрысціцеля. "Ён будзе вялікі ў вачах Пана, і напоўніцца Святым Духам яшчэ ва ўлонні маці сваёй" (параўн. Лк 1, 15).

### СВ. АЛЕНА – МАЦІ СВ. КАНСТАНЦІНА І ВЯЛІКАГА

Алена стала хрысціянкай, хутчэй за ўсё, разам з сынам Канстанцінам ці трохі раней. Заняўшы трон у Рыме, ён перавёз маці ў Вечны горад, дзе яна аддана дзейнічала на карысць убогіх і хворых. Часта наведвала шматлікія святыні. Менавіта дзякуючы ёй была знойдзена большасць рэліквій, звязаных з жыццём Езуса, між іншым, дрэва Крыжа, а таксама адноўлены святыя месцы ў Іерусаліме. Імператар узяў хрысціян пад сваю апеку, дзякуючы чаму яму ўдалося ўмацаваць супольнасць вернікаў.

Асаблівай пашанай св. Канстанцінa і яго маці ахінаюць усходнія Касцёлы.

> **Святасць – гэта штосьці абсалютна звычайнае, таму што заключаецца ў любові да Бога і людзей. "Усе ў Касцёле, незалежна ад таго, належаць яны да іерархіі ці з'яўляюцца аб'ектам пастырскай функцыі, пакліканы да святасці" (Lumen Gentium, 40).**

### СВ. КАНСТАНЦІН І ВЯЛІКІ – БАЦЬКА СВ. КАНСТАНЦЫІ

Канстанцыя была дачкой Канстанціна І з "другога ложа". Калі дзяўчына сур'ёзна захварэла, адправілася на магілу св. Агнешкі, каб памаліцца. Зморaная сном, яна пачула голас: "Вер у Езуса Хрыста – і будзеш аздароўлена". Пасля таго, як Канстанцыя прачнулася, адчула, што поўнасцю здаровая, і навярнулася ў хрысціянства.

### СВ. МОНІКА – МАЦІ СВ. АЎГУСЦІНА

Моніка навярнула свайго мужа Патрыцыя, які быў язычнікам, мяккасцю і спакоем. Калі Аўгусцін, старэйшы сын, адрокся ад веры і ўцёк у Італію, вырушыла ўслед, старанна молячыся аб яго навяртанні. Бог пачуў просьбу жанчыны: пад уплывам казанняў св. Амброзія, біскупа Мілана, Аўгусцін знайшоў веру. З таго часу Моніка была для сына дапамогай, а пасля стала таксама вучаніцай будучага айца Касцёла.

### СВ. ЦЭЛІНА – МАЦІ СВ. РЭМІГІЯ

Пустэльнік з лесу прадказаў Цэліне, растлумачваючы яе сон, што народзіць хлопца, які адыграе важную ролю для свету: "Пан аглядвае зямлю з вышыні неба, каб усе народы абвяшчалі Яго магутнасць і каб каралі мелі гонар служыць Яму. Цэліна стане маці сына, якога назаве Рэмігій, а Я даручу яму місію вызвалення Майго народу". Хутка ў жанчыны нарадзіўся сын, Рэмігій. Стаўшы арцыбіскупам Рэймса ён ахрысціў караля Хлодвіга разам з 3-ма тысячамі жаўнераў.

### СВ. СІЛЬВІЯ – МАЦІ СВ. РЫГОРА ВЯЛІКАГА

Сільвія вядома набожнасцю і тым, што дала сваім дзецям цудоўную рэлігійную адукацыю. Яе сын Рыгор у 590 годзе быў выбраны Папам. Разам са св. Аўгусцінам, св. Амброзіем і св. Геранімам ён з'яўляецца айцом заходняга Касцёла.

### СВ. АЛЬЖБЕТА ВЕНГЕРСКАЯ – МАЦІ БЛ. ГЕРТРУДЫ З АЛЬТЭНБЕРГА

Альжбета была дачкой Андрэя ІІ, караля Венгрыі, вядомага сваёй набожнасцю і пачуццём справядлівасці. Пакінула заможнае жыццё, каб стаць францішканскай тэрцыяркай. Прысвяціла сябе працы на карысць убогіх.

Мела траіх дзяцей. Малодшая дачка – Гертруда – згодна з абяцаннем, складзеным маці яшчэ падчас цяжарнасці, была накіравана ў манастыр у Альтэнбергу. Ва ўзросце 9-ці гадоў дзяўчынка стала сведкам кананізацыйнага працэсу сваёй маці. Падобна як яна, прысвяціла жыццё служэнню патрабуючым, разам з тым спрыяючы будаванню шпіталя і хоспіса. Так жа, як маці, Гертруда мела дар мірыць людзей.

### СВ. БРЫГІТА ШВЕДСКАЯ – МАЦІ СВ. КАЦЯРЫНЫ ШВЕДСКАЙ

Брыгіта выхоўвала 8 дзяцей. Чытала ім Біблію і жыццярысы святых. Пабудавала дом, прызначаны для патрэб убогіх і хворых. Разам з дачкой Кацярынай яны наведвалі шматлікія касцёлы і магілы мучанікаў, жаднойчы пілігрымавалі ў Святую Зямлю. Вялі ўбогае, поўнае ўтаймаванняў жыццё.

Кацярына лічыцца ў Касцёле святой, хоць не была афіцыйна кананізавана, таму што яе кананізацыйны працэс не закончаны ў сувязі з рэфармацыяй.

### СВСВ. ЛЮДВІК І ЗЭЛІЯ МАРЦІН – БАЦЬКІ СВ. ТЭРЭЗЫ З ЛІЗЬЕ

Людвік і Зэлія Марцін былі адданымі католікамі. Кожную раніцу яны ўдзельнічалі ў св. Імшы, посцілі, маліліся, урачыста адзначалі нядзелі, наведвалі пажылых, патрабуючых, хворых, паміраючых асоб. Упершыню ў гісторыі Касцёла сужэнцаў кананізавалі як адно цэлае. Такім чынам была падкрэслена святасць сям'і.

Тэрэза, іх малодшая дачка, па прыкладзе 2-юх старэйшых сясцёр уступіла ў кармэліцкі кляштар у Лізье. Неаднойчы ўзгадвала сямейнае жыццё. Казала: "Добры Бог даў мне бацьку і маці, якія больш годныя неба, чым зямлі". Па прыкладзе сваіх бацькоў імкнулася да святасці не праз здзяйсненне вялікіх спраў, а праз звычайную штодзённасць.



> **Сям'я, якая ўдзельнічае ў запавеце любові паміж Езусам і Касцёлам, атрымала ад Пана місію стаць святой супольнасцю. Выконвае яе, калі праз узаемную любоў сваіх членаў становіцца нібы хатнім санктуарыем Касцёла, калі ўся сям'я ўключаецца ў літургічны культ, даючы сведчанне аб міласэрнасці і справядлівасці.**

*Апрацаваў*
*кс. Юрый Марціновіч*

---

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

**Папа Францішак**



*Езус не запрашае нас да абстрактнай, незямной або тэарэтычнай любові – Ён прапануе шлях, які сам пераадолеў першым, шлях, які прывёў Яго да любові ў дачыненні да тых, хто Яму здрадзіў, хто несправядліва Яго судзіў, хто забіў Яго. "Любіце ворагаў вашых" (Лк 6, 27) – гэта мандат, разлічаны на актыўную добразычлівасць, бескарыслівую і надзвычайную ў адносінах да тых, хто нас параніў.*

*Такім запрашэннем Езус, далёкі ад таго, каб быць упартым мазахістам, жадае назаўсёды спыніць надзвычай распаўсюджаную – як учора, так і сёння – практыку: быць хрысціянамі і жыць паводле закону адплаты. Немагчыма планаваць будучыню, будаваць нацыю, грамадства, заснаваныя на "роўнасці насілля". Не магу ісці за Езусам, калі пашыраю і жыву па прынцыпе "вока за вока, зуб за зуб".*

*"Як хочаце, каб рабілі вам людзі, так вы ім рабіце" (Лк 6, 31), што падразумявае ўзаемную любоў і дапамогу, без розніку на атрыманне нечага ўзамен. Гаворка ідзе пра паводзіны, характэрныя моцным, а не слабым; паводзіны людзей, якія ўсведамляюць, што неабавязкова дрэнна абыходзіцца з іншымі, няславіць ці прыгнятаць, каб адчуваць сваю важнасць, хутчэй наадварот. І ў такіх паводзінах – прароцкая моц, якой нас навучыў сам Езус Хрыстус, [...] паказаўшы, што правільны шлях – гэта служэнне.*

*Фрагмент гаміліі падчас св. Імшы ў Мапуту (Мазамбік), 06.09.2019*

**Кс. бп Аляксандр Кашкевіч**



*Паважаныя Браты Святары і Манаскія Айцы, вялебныя Кансэкраваныя Асобы і дарагія Сведкія Катэхеты! Скіроўваю да Вас словы прызнання і ўдзячнасці за руплівасць і стараннасць, з якімі Вы штодня выконваеце місію катэхізацыі маладога пакалення. Гэтая задача мае асаблівае значэнне і патрабуе ад катэхета не толькі вялікіх інтэлектуальных намаганняў, творчых і педагагічных здольнасцей, але таксама жывой веры, глыбокага малітоўнага жыцця, сапраўднай і бескарыслівай любові да катэхізуемых, клопату пра іх духоўнае дабро...*

*Каханыя Дзеці і дарагая Моладзь! Жадаю Вам з яшчэ большым запалам і перакананнем наведваць заняткі рэлігіі. Няхай пазнаванне Езуса Хрыста і Яго збавеннай навукі будзе сапраўднай патрэбай душы і разам з тым найбольшай радасцю. [...] Няхай зярнятка веры, засеянае ў Вашых маладых сэрцах на катэхезе, прынесіць цудоўны плён на працягу ўсяго жыцця.*

*Фрагмент Пастырскага ліста на новы 2019–2020 навучальны і катэхетычны год*




◆ *Святы Айцец Францішак накіраваў прывітанне арганізатарам і ўдзельнікам XXV Міжнароднага кангрэсу праваслаўнай духоўнасці на тэму "Пакліканыя да жыцця ў Хрысце". Форум па традыцыі праходзіць у італьянскім манастыры ў Базэ. Гэта адзінае месца, дзе сустракаюцца прадстаўнікі амаль усіх Праваслаўных Цэркваў. У спецыяльнай тэлеграме Папа заклікаў вернікаў паглыбляць духоўныя скарбы, якія аб'ядноўваюць католікаў і праваслаўных, каб быць пераканаўчымі сведкамі Евангелля жыцця і даваць чалавецтву надзею ў пошуках сапраўдных адказаў.*

◆ *Партугальскія біскупы раскрытыкавалі намаганні палітыкаў па ўкараненні гендэрнай ідэалогіі. Згодна з прынятым у краіне законам, дзяржаўныя і прыватныя навучальныя ўстановы павінны ўводзіць у праграмы пытанні, звязаныя з гендэрнай праблематыкай. Паводле новых правіл, кожны вучань можа карыстацца распранальнямі і прыбіральнямі, з якімі ён альбо яна атаясамлівае сябе. На думку іерархаў, гэта з'яўляецца "антрапалагічнай рэвалюцыяй". Нававядзенні супярэчаць асноўнаму заканадаўству, у якім сцвярджаецца, што "дзяржава не можа навязваць у школьнай адукацыі пэўную рэлігію, дактрыну ці ідэалогію".*

◆ *У Францыі рыхтуецца закон аб апладненні "in vitro без бацькі" для лесбійскіх пар. Ён будзе перададзены ў Нацыянальны сход у канцы верасня. У студзені наступнага года закон накіруюць у Сенат на зацвярджэнне прэзідэнта. Адметна, што ў французскім грамадстве няма згоды на ўвядзенне такіх змен. Паводле даследаванняў, праведзеных на пачатку бягучага года, 82% французаў прагаласавалі супраць апладнення ў прабірцы для аднаполых пар. Прасямейныя арганізацыі ўжо абвясцілі вулічныя акцыі пратэсту. Першая дэманстрацыя ў Парыжы запланавана на 6 кастрычніка.*

◆ *"Карытас" Познанскай архідыяцэзіі (Польшча) вызначыць спонсарскія сродкі на будаўніцтва хоспіса для дзяцей у Літве. З-за невылечных хвароб у гэтай краіне штогод памірае 120 дзяцей. Першая пляцоўка такога тыпу ў Літве была адкрыта ў 2012 годзе. Да сёння хоспіс прыняў больш за 3 тысячы хворых. Цяпер у ім апекуюцца каля 250-ю пацыентамі ў год. Дзейнічае таксама хатні хоспіс.*

◆ *140 гадоў таму жыхары вёскі Кнок (Ірландыя) сталі сведкамі аб'яўлення: на працягу 2-юх гадзін назіралі на сцяне касцёла відарысы Марыі, Яе Абранніка Юзафа, Яна Хрысціцеля, Баранка на алтары і анёлаў. Нядаўна Касцёл упершыню афіцыйна прызнаў цудоўнае аздараўленне, якое здарылася ў гэтым месцы. Апошнім часам духоўныя ўлады шмат клапоцяцца аб ажыўленні пілігрымак у санктуарый, бачачы ў ім надзею на адраджэнне веры. Сюды штогод прыбывае 1,5 мільёна вернікаў.*

*vaticannews.va; gosc.pl; niedziela.pl*

# АДПАЧЫЎШЫ Ў БОГУ



● *працяг са с. 1*

***У сённяшнім нумары газеты "Слова Жыцця" пра свой удалы адпачынак распавядаюць тыя, хто скарыстаў прапановы парафій.***





**Юрый Пержынскі**
*16 гадоў*
*парафія Святога Духа ў Гродне*

*Падчас летніх канікул мне пашчасціла паўдзельнічаць у "Младзіфэсце" – хрысціянскім фестывалі, які праходзіць у Меджугор'і, мясцовасці паміж гарамі ў Босніі і Герцагавіне. Гэта месца аб'яўленняў Марыі, якое штогод збірае мільёны паломнікаў. Аб фэсце даведаўся ад мамы і сястры, якія пабывалі там у мінулым годзе. Па прыездзе іх было не пазнаць: змяніліся, нібы прасвятлелі. Таму сёлета вырашыў паехаць і я.*

*Спадабалася, што ніхто не прымушаў следаваць пунктам падрыхтаванай праграмы. Арганізатары проста прапанавалі пэўны план і рэкамендавалі прыслухацца да парад, каб больш плённа правесці адведзены час. Раніцай я супольна з усімі маліўся Ружанец, а ўвечары слухаў канферэнцыі і ўдзельнічаў у св. Імшы. Днём меў вольны час, які бавіў, як хацеў. Хоць я не вельмі таварыскі, атмасфера схіляла да камунікацыі – і цяпер сярод маіх знаёмых шмат іншаземцаў! Таксама пачуў мноства сведчанняў, некаторыя з якіх кранулі мяне да слёз.*

*Аднак больш за ўсё грэюць душу ўласныя перажыванні. Калі я ўпершыню падняўся на гару аб'яўленняў і падышоў да фігуры Маці Божай, каб памаліцца за сваю сям'ю, асабліва за брата, каб той паступіў у Акадэмію МУС, да мяне наблізілася незнаёмая жанчына і запэўніла: "Радуйся! Твае прашэнні пачутыя". Вярнуўшыся дадому, я даведаўся, што брата прынялі ў акадэмію. І гэта нягледзячы на тое, што раней яго паставілі перад фактам: набраў надта мала балаў, трапіў толькі ў рэзервовую групу, шанс на паступленне нікчэмны.*

*"Младзіфэст" дапамог мне зразумець, што Марыя адкрыта на кожнага чалавека. Паездка ў Меджугор'е стала для мяне таксама адлюстраваннем сапраўднага адпачынку з Богам – узрастання ў веры і сузірання, захаплення прыгажосцю, якую стварыў Нябесны Айцец.*



**Вольга Васько**
*17 гадоў*
*парафія свсв. Пятра і Паўла ў Ражанцы*

*Штогод колькасць ахвотных прыняць удзел у "Канікулах з Богам" у Шчучыне павялічваецца. Сёлета мы прымалі ажно 650 хлопцаў і дзяўчат з мясцовай парафіі і некаторых іншых беларускіх мястэчак! Я была валанцёрам, але пры гэтым магу адзначыць, што памагатыя – такія ж удзельнікі. Валанцёры адказныя за арганізацыю вольнага часу, але разам з маленькімі вернікамі моляцца і весяляцца.*

*Кожны дзень мы распачыналі з размовы з Богам, а пасля разважалі над галоўнай тэмай летніка – 8-мю блаславеннямі Езуса Хрыста. Набліжалі дзецям вучэнне Збаўцы ў форме тэатральных пастановак, песень і танцаў, каб ім было лягчэй засвойваць важныя веды. Пасля пазнавальнай часткі наступаў час гульняў. Штодзень іншая забава: батуты, спартакіяда, квэст... На заканчэнне дня ўсе збіраліся ў кола: маліліся за суседа справа і злева, ва ўсіх патрэбных інтэнцыях. Пасля разыходзіліся, атрымліваючы на развітанне салодкі пачастунак.*

*Назіраючы за хлопцамі і дзяўчатамі, магу з упэўненасцю сказаць, што "Канікулы з Богам" – сапраўднае свята. Дзеці і моладзь з непадробленай цікавасцю імкнуцца пазнаваць Нябеснага Айца і цешацца актыўным адпачынкам. Для мяне гэты летнік – магчымасць абстрагавацца ад штодзённых спраў, правесці час з задавальненнем і карысцю. Гэта пара, каб узгадаць пра галоўныя рэчы ў жыцці і з радасцю праслаўляць Бога.*



**Віялета Геда**
*17 гадоў*
*парафія Унебаўзяцця НПМ і св. Язафата Кунцэвіча ў Сапоцкіне*

*Ад сясцёр серафітак з Сапоцкіна я даведалася аб магчымасці паўдзельнічаць у рэкалекцыях "Поўная ласкі", прысвечаных Марыі, якія праходзілі ў Польшчы. Нас было 14 удзельніц. Духоўны складнік рэкалекцый быў вельмі моцны. Кожную раніцу мы разам з дзяўчатамі і сёстрамі пачыналі з прыгожай малітвы на Брэвіярыі. Штодня слухалі канферэнцыі і разважалі на тэмы паклікання, жыцця і рысаў характару Марыі. Збіраліся на св. Імшы, адарацыі, стараліся зразумець пачуцці Маці Божай падчас удзелу ў набажэнстве Крыжовага шляху. Інтэнсіўную набожную праграму манахіні разбаўлялі цікавымі гульнямі і вандроўкамі, якія ўражвалі маляўнічасцю краявідаў.*

*Навошта мне патрэбны духоўныя практыкі? Раблю з іх жыццёва важныя высновы. Мінулым разам падчас летніх рэкалекцый я навучылася не баяцца быць самой сабой, неглядзечы на тое, хто і што атачае мяне. Сёлета пасля вяртання дадому абрала сабе дэвіз: "Жыву тут і цяпер". Гэта вельмі актуальна, бо надта хвалююся пра сваю будучыню. Зараз разумею: трэба цалкам давяраць Богу, і Ён пакіруе.*

*Лета – вельмі гарачая, насычаная пара, і часам адчуваеш патрэбу проста пабыць у цішыні. Рэкалекцыі з'яўляюцца цудоўнай магчымасцю сустрэцца ў душы з Богам, пашукаць адказы на турбуючыя пытанні, падрыхтавацца і назапасіць сілы на новы навучальны ці працоўны сезон.*



**Станіслаў Гаспарэвіч**
*50 гадоў*
*парафія Божай Міласэрнасці ў Гродне*

*Напрыканцы лета ў Навагрудку праходзілі двухдзённыя рэкалекцыі для мужчын. Мне важна было апынуцца ў мужчынскай кампаніі сярод аднадумцаў, каб мець магчымасць абмяняцца досведам веры. Падчас рэкалекцый я разам з іншымі прымаў удзел у св. Імшы, слухаў канферэнцыі, хадзіў на экскурсіі. Мы разважалі наконт будаўніцтва хатняга Касцёла, разбіралі прыклады, як праяўляць сябе хрысціянамі ў сваім асяроддзі. Зразумела, шмат чаго запазычылі не толькі адзін ад аднаго, але і ад святара. Ксёндз наблізіў нам таямніцу Эўхарыстыі, і мы зразумелі, што яна з'яўляецца бяскоцай крыніцай для пазнання. Езус, уцелаўлёны ў хлебе, – гэта ахова ад зла, скарбніца моцы для саўладання са штодзённымі клопатамі.*

*На нейкі час мы мелі магчымасць аддаць Богу ўсе свае хатнія і працоўныя клопаты з упэўненасцю, што ўсё будзе добра. І гэтага часу нам спаўна хапіла, каб паўнавартасна адпачыць душой і целам ды атрымаць зарад энергіі на больш працяглы перыяд.*

*Падрыхтавала*
*Ангеліна Марцішэўская*

# Вера і добрае тлумачэнне чыняць цуды



**Больш за 20 гадоў у Гродне працуе Каталіцкая кансультацыя. Яе дзейнасць скіравана на аказанне дапамогі людзям, якія перажываюць цяжкасці ў асабістым, сужэнскім і сямейным жыцці. Спецыялісты аказваюць падтрымку, між іншым, у наладжванні альбо паглыбленні зносін паміж мужам і жонкай, у вырашэнні складаных спраў, звязаных з выхаваннем дзяцей і моладзі. Якім чынам кансультанты прычыняюцца да вырашэння жыццёвых праблем? Чаму ў многіх сітуацыях кансультацыя становіцца месцам атрымання першай парады? На гэтыя і іншыя пытанні адказвае кс. Павел Салабуда, які духоўна апекуецца кансультацыяй.**

*– Кс. Павел, чым адметная Каталіцкая кансультацыя? Якія галоўныя мэты і задачы гэтай установы?*

– Найважнейшае тут менавіта гэтае “каталіцкая”. Чаму? Таму што яна вельмі адрозніваецца ад кансультацыі, якая не мае ў сабе такога слова. Прывяду вельмі просты прыклад з уласнага вопыту. Да мяне прыходзіць сужэнства з праблемамі. Муж з жонкай маюць за плячамі 20 гадоў супольнага жыцця, трое дзяцей. Псіхолаг у дзяржаўнай кансультацыі рэкамендаваў ім разысціся або знайсці сабе каханкаў. Гэта веруючыя людзі, таму яны былі ў шоку, калі пачулі такое. У каталіцкай кансультацыі ніколі не дадуць падобнай парады! На нашай пляцоўцы працуюць людзі, якія клапоцяцца аб духоўным жыцці. Таму бачым, што падыход да аказваемай дапамогі знаходзіцца на зусім іншым узроўні. Наша мэта – дапамагчы чалавеку парадай, якая абапіраецца на рэлігійных каштоўнасцях, а таксама прафесійнай тэрапіяй.

*– Аб кансультацыі мы прызвычаіліся думаць як аб установе, якая служыць сужэнцам ці нарачоным. Ці можа атрымаць дапамогу асоба, якая не заснавала сям’ю ці яшчэ дастаткова маладая і мае праблему, з якой не можа справіцца самастойна?*

– Кансультацыя ў Гродне дзейнічае з 1997 года і да гэтага часу з’яўляецца адной з найлепшых устаноў у сваёй галіне ў Касцёле ў Беларусі. З гэтага года хочам пашырыць сферу яе дзейнасці, таму мы адкрытыя на ўсіх, незалежна ад узросту і веравызнання. У будучым плануем праводзіць тэрапію ў розных напрамках, напрыклад, з залежнымі асобамі.

*– На працу ў кансультацыю звычайна прымаюць людзей, якія маюць выразныя маральныя якасці, адпаведныя веды і жыццёвы досвед. Якімі рысамі валодаюць спецыялісты, што служаць у кансультацыі ў Гродне?*

– У нас працуюць кампетэнтныя, рэлігійныя спецыялісты, якія адрозніваюцца псіхалагічным пачуццём. Яны гатовы ахвяравацца для кожнага, каму неабходна падтрымка і парада. Захопленыя, імкнуцца выконваць свае задачы як мага лепш. У залежнасці ад роду праблемы, вылучаем некалькі асаблівых напрамкаў: псіхалагічная і псіхіятрычная дапамога, дапамога пры залежнасцях і юрыдычная дапамога. Асабіста для мяне ў кансультацыі заўсёды апраўдваецца формула: “вера + добрая парада = цуд”.

*– Раскажыце, калі ласка, пра тэрапію ў кансультацыі. Як адбываецца сустрэча? Ад чаго залежыць яе поспех?*

– Кансультаванне з’яўляецца мастацтвам дапамогі іншым без прычынення ім болю, каб маглі распазнаць і вырашыць складаныя праблемы свайго жыцця. Аднак поспех залежыць ад абодвух бакоў: ад спецыяліста і ад пацыента.

Памятаю, як я, вярнуўшыся з вучобы ў Любліне, распачаў працу ў кансультацыі. Тады было вельмі шмат пацыентаў. Большасць з іх, відаць, думала так: “Раз гэта ксёндз, а ў дадатку яшчэ і псіхолаг, напэўна, ён за адзін прыём нам дапаможа”. Звычайна яны прыходзілі пасля візітаў у іншых прафесіяналаў, пасля медыкаментознага лячэння, спадзяваючыся на мяне, як на “збаўцу”. Многія верылі ў цуд без уласнага ўдзелу, без супрацоўніцтва са спецыялістам, не разумеючы, што калі чалавек не адкрыты на прыняцце дапамогі, змены ў лепшы бок не адбудуцца.

*– З якімі праблемамі часцей за ўсё звяртаюцца ў кансультацыю?*

– Маім першым пацыентам у кансультацыі быў чалавек з дыягназам параноя… Такім чынам, за дапамогай звяртаюцца тыя, хто сапраўды яе патрабуе. Многія маюць цяжкасці ў сям’і, узалежнены ад алкаголю. Усё часцей прыходзяць з праблемамі ў выхаванні дзяцей. Тут важныя 2 аспекты: прыйсці да нас своечасова і зламаць стэрэатып, які пануе ў Беларусі, што нібыта да псіхолагаў ходзяць толькі псіхічна хворыя людзі. Кожнаму варта клапаціцца аб сваім псіхічным здароўі так, як і аб фізічным стане.

*– З якімі цяжкасцямі Вы сустракаліся на працягу паслугі ў кансультацыі?*

– Адной з самых частых праблем з’яўляецца тое, што пацыенты прыходзяць да нас запозна, паколькі спрабуюць усё, пачынаючы ад “бабкі”, якая варожыць ім на картах, заканчваючы псіхіятрычнай клінікай, дзе атрымліваюць такую сур’ёзную дозу лекаў, што перастаюць быць падобнымі самі на сябе.

*– Ці людзі, якія падтрымліваюць кантакт з кансультацыяй, даюць сведчанне аб зменах, што адбыліся ў іх жыцці?*

– Памятаю, быў пэўны час, калі даволі шмат пацыентаў не прыходзілі ўжо на другую сустрэчу. Я не мог зразумець, чаму. Думаў, што, можа быць, я слабы спецыяліст… А пазней зразумеў, што нават тыя простыя рэчы, якія я тлумачыў на першай сустрэчы, былі для некаторых занадта складанымі або пацыенты проста не хацелі нічога змяняць, таму саромеліся прыходзіць у другі раз. Аднак ведаю таксама дастатковую колькасць людзей, якім мы дапамагалі, і яны цяпер рэкамендуюць нас сваім знаёмым і сябрам.

*– Дзе можна знайсці падрабязную інфармацыю пра дзяжурствы кансультантаў?*

– Дзяжурствы цяпер будуць адбывацца пры пабрыгіцкім касцёле ў Інфармацыйна-турыстычным цэнтры нашай дыяцэзіі па адрасе: **вул. К. Маркса, 27. Дамовіцца аб сустрэчы з кансультантам можна па нумары тэлефона: (8 029) 230-50-80.**

Падрабязная інфармацыя будзе размешчана на нашай інтэрнэт-старонцы, а таксама на старонцы ў Facebook. Хацелася б таксама дадаць, што ў кожны апошні чацвер месяца ў 20.00 мы праводзім перадшлюбныя сустрэчы для ўсіх нарачоных. У будучым плануем арганізаваць разнастайныя курсы і адукацыйныя сустрэчы. Запрашаю ўсіх жадаючых да супрацоўніцтва!

*Кінга Красіцкая*




**KAI**

### 25 гадоў у дарозе

*Мінулым летам 95-гадовая італьянка Эма Маразіні адправілася з роднага Кастыльёнэ дэль Стырэ ў самотнае паломніцтва ў Ясную Гару (Польшча).*

*“З таго дня, як я была цудам аздароўлена, вырашыла, што буду хадзіць у пілігрымкі. І з 70-га года жыцця кожны год падарожнічаю 3 месяцы, – распавядае спадарыня Эма. – Першым санктуарыем, які я наведала, быў Лурд. Потым Фаціма. Цяпер настала чарга Чанстаховы. Прыношу апошнія плады свайго жыцця Маці Божай: малітву за мір у свеце, за свяtarоў і за моладзь. Гэта самыя важныя намеры, якія можна давяраць толькі Марыі”.*

*У падарожжы ў яснагорскі санктуарый жанчына пераадолела каля тысячы кіламетраў. Яе адметныя знакі – гэта аранжавая камізэлька, кіёк, панама і ружанец. Вандроўніца вязе з сабой таксама невялікую каляску, у якой ёсць усё неабходнае для пілігрыма.*

**CREDO**

### Самаробны асвечаны мяч

*Ліянель Месі атрымаў незвычайны падарунак з Апостальскай Сталіцы.*

*Футбалісту быў уручаны мяч, зроблены хлопцамі з Мазамбіка. Святы Айцец Францішак асвяціў яго ў Ватыкане. З гэтай нагоды Пантыфік распавёў, што сам у дзяцінстве гуляў з анучай.*

*Месі быў узнагароджаны за тое, што прадстаўляе “футбольныя каштоўнасці ў найвышэйшым стане”: камандная супрацоўніцтва, салідарнасць і стойкае пераадольванне цяжкасцей. Гэта прызнанне дзяцей і моладзі з сеткі школ “Scholas Occurrentes”, заснаванай папам Францішкам.*




### Скандал!

*Удзельнікаў перадсінадальнага форуму “блаславіў” шаман.*

*У калумбійскай Багаце адбыўся 3-ці падрыхтоўчы форум перад Амазонскім сінодам. На яго быў запрошаны шаман, які перад распачаццем нарад “блаславіў” удзельнікаў пасаджэнняў згодна з язычніцкімі рытуаламі.*

*Публіцысты звяртаюць увагу, што г. зв. Instrumentum laboris, падрыхтоўчы дакумент да сходу, характарызуецца надта вялікай паблажлівасцю да традыцыйнай, язычніцкай культуры Лацінскай Амерыкі. Гэта можа сведчыць аб жаданні арганізатараў Сінода ўвесці ў штодзённасць Каталіцкага Касцёла ў гэтым рэгіёне пантэістычных ці ўвогуле шаманскіх матываў.*




### *У чым заключаецца сэнс ахвяравання Богу свайго жыцця і пакут за іншага чалавека?*

*Неабходна раздзяліць 2 згаданыя рэчы: прысвячэнне жыцця Богу і пакуту за іншых людзей. Прысвячэнне жыцця Богу – гэта шлях следавання за евангельскімі радамі чысціні, убоства і паслушэнства, спосаб дасканалага перайманне Збаўцы ў Яго дабрадзейнасцях (праяўляецца ў Касцёле ў розных формах манаства). “Евангельскія рады ў іх разнастайнасці прапанаваны кожнаму вучню Хрыста. Дасканаласць любові, да якой пакліканы ўсе вернікі, азначае для тых, хто свабодна прымае заклік да прысвячэння жыцця Богу, што яны абавязваюцца захоўваць цнатлівасць Божага Валадарства, жыць у беднасці і паслухмянасці. У выніку богапрысвечанае жыццё з’яўляецца адным са спосабаў спазнаць “больш глыбокую” аддадасць, якая, маючы корань у сакраманце хросту, цалкам прысвячае верніка Богу. У богапрысвечаным жыцці вернікі ставяць сабе за мэту як мага бліжэй ісці за Хрыстом, аддаваць сябе Пану, любячы Яго па-над усім, і працягваць удасканаленне сябе ў любові на службе Божаму Валадарству, знамянуючы і абвяшчаючы ў Касцёле славу будучага свету” (ККК, 915–916).*

*“Праз статус прысвечаных Богу людзей Касцёл адкрывае свету Хрыста і паказвае, як дзівосна дзейнічае ў ім Святы Дух. Тыя, хто складаюць шлюбы, маюць, такім чынам, прызначэнне, перш за ўсё, сваім пасвячэннем. Але паколькі яны ў сілу самога свайго пасвячэння аддаюць сябе служэнню Касцёла, то іх абавязак – асаблівы ўдзел у місіянерскай працы” (ККК, 931).*

*Акрамя такога асаблівага шляху, кожны хрысціянін праз сакрамант хросту таксама з’яўляецца прысвечаным Богу. “Стаўшы чальцом Касцёла, ахрышчаны не належыць больш самому сабе (1 Кар 6, 19), ён належыць Таму, хто памёр і ўваскрос за нас” (ККК, 1269). “Той, хто верыць у Хрыста, становіцца сынам Божым. Гэтае ўсынаўленне перамяняе яго, дазваляючы наследаваць прыклад Езуса. Яно дае яму здольнасць дзейнічаць справядліва і тварыць дабро. У саюзе са сваім Збаўцам вучань дасягае дасканаласці любові, г. зн. святасці” (ККК, 1709).*

*Што адносна пакуты за іншага чалавека, то яе можна разумець толькі ў кантэксце малітвы. Проста зносіць фізічныя ці маральныя пакуты за бліжняга не мае ніякага духоўнага зместу. Хрысціянская традыцыя прапануе ў гэтым выпадку хадайніцкую малітву. Той, хто моліцца, “не пра сябе толькі клапоціцца, але і пра іншых” (Флп 2, 4). Форма можа быць любая: як звычайная малітва ў намеры пэўнага чалавека, так і іншыя духоўныя практыкі, такія як пост, удзел у пілігрымцы, дабрачыннасць і г. д.*

*А. Зміцер Чарнель CSsR*
***Паводле catholicnews.by***



*З Богам праз штодзённасць*

# Малітва Божым словам

У разважаннях пра формы малітвы немагчыма абмінуць увагай малітоўнае чытанне Святога Пісання. Як сказана на пачатку Бібліі, Бог праз Слова стварае ўсё. Тое ж паўтарае евангеліст Ян, называючы Словам Божага Сына.

Слова, змешчанае ў Старым і Новым Запавеце, становіцца дасягальным для нас. Папа Бенедыкт XVI у адгартацыі “Verbum Domini” адзначае: “Божае слова знаходзіцца ў аснове кожнай сапраўднай хрысціянскай духоўнасці”. Гэтае сцверджанне запрашае нас паглядзець на ўласнае стаўленне да малітвы Божым словам. Ці маё духоўнае жыццё стаіць на трывалым падмурку? А можа, біблійныя разважанні здаюцца неабавязковым упрыгожаннем, “раскошай”, даступнай толькі некаторым людзям?

Як сцвярджаў св. Амброзій, “калі чалавек з вераю бярэ ў рукі Святое Пісанне і чытае яго, зноў ходзіць з Богам у раі”. Для гэтага дастаткова толькі адкрыць Біблію? Знешне – так, але за ўдакладненнем: “з вераю” стаіць шматвяковая традыцыя Касцёла. Сама падрыхтоўка і працэс малітоўнага чытання будзе адрозніваецца ад звычайнага, калі чалавек мае намер даведацца аб падзеях і постацях Святога Пісання.

Сярод розных метадаў чытання Божага слова ў духу веры найбольш вядомы – lectio divina. Каб коратка нагадаць асноўныя этапы гэтай малітвы, скарыстаемся вышэйзгаданай адгартацыяй папы Бенедыкта XVI. “Распачынаецца яна [lectio divina] чытаннем (lectio) тэксту, якое абуджае жаданне праўдзівага пазнання яго зместу: ***што гаворыць біблійны тэкст сам па сабе?*** Без гэтага этапу існуе небяспека, што тэкст стане толькі прычынай, каб ніколі не выйсці па-за ўласныя думкі. Затым наступае разважанне (meditatio), у якім ставім сабе пытанне: ***што гаворыць нам біблійны тэкст?*** Тут кожны асабіста і таксама супольнасць павінна адкрыцца на яго і супаставіць сябе з ім, паколькі маецца на ўвазе разважанне над словамі, сказанымі не ў мінулым, але ў дадзеную хвіліну. Затым падыходзім да этапа малітвы (oratio), якая прадбачыць пытанне: ***што мы гаворым Пану ў адказ на Яго словы?*** Малітва ў якасці просьбы, заступніцтва, падзякі і праслаўлення – гэта першы спосаб, праз які Слова нас змяняе. Урэшце lectio divina заканчваецца кантэмпляцыяй (contemplatio), падчас якой прымаем як дар Бога Яго погляд пры ацэнцы рэчаіснасці і пытаемся: ***якой змены мыслення, сэрца і жыцця патрабуе ад нас Пан?*** […] Божае слова становіцца тут крытэрыем распазнання, яно «жывое і дзейснае, вастрэйшае за ўсялякі меч двусечны. Яно пранікае ажно да падзелу душы і духа, суставаў і шпіку і здольнае судзіць думкі і намеры сэрца» (Гбр 4, 12). Варта таксама нагадаць, што lectio divina ў сваёй дынаміцы не заканчваецца, пакуль не прывядзе да дзеяння (actio), якое чыніць, што жыццё веруючага становіцца дарам для іншых у любові” (Verbum Domini, 87).

Тут варта нагадаць і аб адкрытасці сэрца на дзеянне Святога Духа. Гэтая малітва асаблівым чынам патрабуе загадзя вызначанага часу і ўнутранай шчодрасці, каб адпаведна падрыхтавацца. Супакоіць сэрца… Усвядоміць, што Бог мяне чакае… Абудзіць інтэнцыю, “жаданне сапраўднага пазнання”… Прачытаць Слова павольна і не адзін раз… Пабыць з ім у цішыні, паразважаць, задацца пытаннямі…

Усе элементы lectio divina невыпадковыя і каштоўныя. Як піша папа Бенедыкт XVI, у разважанні мы “павінны адкрыцца” на тэкст і “супаставіць сябе з ім, паколькі маецца на ўвазе разважанне над словамі, сказанымі не ў мінулым, але ў дадзеную хвіліну”. Вось цяпер, калі я малюся, Божае слова і з’яўляецца “жывым і дзейсным”. Не 2-3 тысячы гадоў таму, а ў дадзеную хвіліну. Іншымі словамі, малітоўнае пазнанне Святога Пісання дазваляе актуалізаваць яго змест у сваім сёння, што ў сваю чаргу ўплывае на наша жыццё. Разважаючы над выбраным урыўкам, задаёмся пытаннем: а што са мной? Якія наступствы мае праўда, якую адкрывае Бог, канкрэтна для мяне? Як яна асвятляе мінулае і дапамагае лепш зразумець яго? Што гаворыць пра будучыню?

Не заставацца назіральнікам за падзеямі, не праглядаць фільм, не ўспамінаць гістарычныя звесткі, не чытаць, як раман з захапляльным сюжэтам, бо гэтага мала – малітоўнае разважанне сягае невымерна далей. Мы запрошаны ўнесці ў біблійную сцэну сваё жыццё, пачуцці, сваю непаўторнасць, якой бы яна ні была. Можам дазволіць сабе стаць часткай евангельскай сцэны. “Біблійная гісторыя закранае таямніцу маёй асобы, а мая таямніца ўплывае на гісторыю” (а. Джон Вэлтры SJ). Можна сказаць, што тэкст “працягвае мне руку”. Так дасягае нас Майсей, абвяшчаючы запаведзі Дэкалога, часам звяртаючыся наўпрост на “ты”. Так прарок Ісая апавядае нам пра вінаграднік свайго Сябра, заклікаючы да навяртання. Так усцяж “новы” кароль Егіпта мудруе над планамі ўціску Божага народу, “Майго першынца”, як асцерагае яго Бог. І гэтым дзіцяткам, над якім чувае Пан, з’яўляецца кожны з нас. Тут і цяпер. Уваскрослы Хрыстос ідзе побач, хоць гарады і вёскі, у якія спяшаемся, ужо не называюцца Эмаус.

Такое ўспрыманне і ўзаемадзеянне са Словам дае магчымасць перамяніць сваё жыццё, абуджае, прынамсі, жаданне стаць лепшым, дазваляе духоўна ўзрастаць і сустракацца з Богам у рэальным жыцці, а не ў сваіх ілюзіях.

У рэчаіснасці падчас малітвы можа здарыцца і так, што нават нягледзячы на жаданне і высілак узнікае адчуванне, нібы нічога не адбываецца. Менавіта ў такія хвіліны можам выразна ўсвядоміць: малітва з’яўляецца Божым дарам. Нават у збянтэжанасці і смутку важна застацца ў дыялогу з Богам, прасіць Яго паказаць прычыну такога стану, з пакорай прымаючы ўсё, што Ён адкрывае, у тым ліку Яго маўчанне. Па сутнасці, Божы ўплыў на нашу душу адбываецца на недасяжнай для чалавечых пачуццяў глыбіні. Часам трэба толькі цярпліваць і дзіцячы давер да Яго няспыннай працы над намі і над светам.

Божае слова, пачутае сёння, прадугледжвае дзейсны адказ – actio. Што значыць скрозь усё жыццё “ставіцца дарам для іншых у любові”? Паразважаем над гэтым пытаннем у наступны раз.

*Тэрэса Клімовіч*

# 10 цікавых фактаў пра Біблію

***Біблія, напісаная амаль 2 тысячагоддзі таму, застаецца самым папулярным выданнем усіх часоў. Дастаткова ўявіць, што яе друк не спыняецца ні на секунду! Прапануем увазе чытачоў падборку цікавостак пра Святое Пісанне.***

**1** *У сярэднім за год людзі набываюць 100 млн экземпляраў Бібліі. Самыя каштоўныя асобнікі ацэньваюць у мільёны (!) даляраў. У той жа час Святое Пісанне – самая танная ў свеце кніга. Ні адно выданне не мае такой колькасці бясплатных копій.*

**2** *Біблія, надрукаваная Іаганам Гутэнбергам у 1450-ых гадах, складаецца з больш за тысячу старонак. На кожнай з іх – 2 калонкі па 42 радкі. Па гэтай прычыне ў навуковай літаратуры Біблію Гутэнберга часта абазначаюць як “B 42”. Яна лічыцца ўзорам якасці.*

**3** *Каля 500 вершаў у Бібліі прысвечаны малітве, больш за 2 000 – грошам і багаццю.*

**4** *У сярэднявеччы была распаўсюджана “Біблія для непісьменных” (“Biblia pauperum”). Яна ўяўляла сабой серыю малюнкаў з кароткімі подпісамі. Лічыцца, што такі фармат адыграў каласальную ролю ў хрысціянскай асвеце еўрапейцаў.*

**5** *Пры каралеўскім двары Карла I у 1631 годзе выйшла рэдкая Біблія. Яна стала легендарнай з-за дапушчанай падчас друку памылкі. У апісанні адной з запаведзей была прапушчана часціца “не”, у выніку чаго атрымалася “чужалож” замест “не чужалож”. З-за гэтай памылкі Біблія атрымала назву “Біблія грэшнікаў”, “Злая Біблія”, “Біблія пралюбадзеяў”. Па загадзе караля яе тыраж быў канфіскаваны і знішчаны, аднак некалькі асобнікаў захавалася.*

**6** *Першая кніга Бібліі на беларускай мове была выдадзена Францыскам Скарынам больш за 500 гадоў таму. Гэта адбылося раней, чым свет убачыў пераклады Бібліі на англійскай і французскай мове. Сёння кнігі Святога Пісання даступны носьбітам больш за 3 000 моў.*

**7** *Экземпляр Бібліі пабываў на Месяцы. У 1971 годзе Святое Пісанне ўзяў з сабой у палёт экіпаж карабля “Апалон-14”. Усе яго 1 245 старонак былі нанесены метадам мікрадруку на ліст плошчай 4,1 см².*

**8** *Словы “Не бойся” і іх варыяцыі з’яўляюцца на старонках Бібліі 365 разоў, па колькасці дзён у годзе.*

**9** *У Бібліі ўпамінаецца 2 800 уласных імён, пад якімі выступаюць каля 15 000 асоб. Найбольш часта ўзгадваецца імя Езуса Хрыста. Таксама сустракаюцца каля 160 назваў жывёл і 120 назваў раслін.*

**10** *У час I Сусветнай вайны кожны брытанскі вайсковец павінен быў мець Біблію. Многія чыталі яе ў акопах, асабліва паміраючыя. Дзякуючы Святому Пісанню мужчына па імені Джордж Вінол застаўся пры жыцці. Куля трапіла ў кнігу, якую той насіў пад кіцелем. Яна спынілася акурат на радках: “Так кажа Пан: «Я выслухаю цябе ў час спрыяльны, у дзень збаўлення Я дапамагу табе»” (Іс 49, 8). Мужчына перажыў вайну і прысвяціў сябе місіянерскай дзейнасці.*

***І ўсё гэта пра кнігу, якая, хутчэй за ўсё, маецца і ў Тваёй хатняй бібліятэцы.***

*Падрыхтавала Ангеліна Пакачайла*

## НАВІНЫ



## ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАЯ СУСТРЭЧА КАТЭХЕТАЎ

Разам з новым навучальным годам у школьнікаў распачаліся заняткі па рэлігіі. У многіх парафіях ладзяцца таксама сустрэчы для студэнтаў і працоўнай моладзі. Іх праводзяць святары, манаскія сёстры і свецкія асобы.

Напярэдадні новага навучальнага і катэхетычнага года ў санктуарыі Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях (дэканат Радунь) адбылася сустрэча катэхетаў, якія служаць на тэрыторыі Гродзенскай дыяцэзіі. Прысутным была прадстаўлена канферэнцыя на тэму "Уздзеянне інтэрнэту на моладзь і дзяцей", якую прамовіў кс. доктар Юрый Жэгарын, пробашч парафіі св. Міхала Арханёла ў Навагрудку. Святар звярнуў увагу на наступствы бескантрольнага доступу дзяцей да інтэрнэту і праблему залежнасці маладога пакалення ад карыстання гаджэтамі.

Кульмінацыяй сустрэчы стала св. Імша, якую цэлебраваў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч у інтэнцыі ўсіх, хто займаецца катэхізацыяй у дыяцэзіі. Іерарх заклікаў катэхетаў, на якіх, па яго словах, Касцёл глядзіць з надзеяй, актыўна служыць у сваіх парафіяльных супольнасцях, асаблівым чынам ідучы да ўсіх, хто прагне Божай праўды. Біскуп дадаў, што, каб перадаваць Божае слова сваім падапечным, неабходна самому найперш пазнаваць і паглыбляць яго веданне на малітве, Эўхарыстыі і праз удзел у рэкалекцыях ды днях засяроджання. Сустрэча стала для катэхетаў нагодай набрацца духоўных сіл, патрэбных для таго, каб весці дзяцей і моладзь да Бога – крыніцы ўсялякага дабра.

У гэты час у парафіях вернікі памаліліся ў інтэнцыі ўсіх, хто распачынае новы навучальны і катэхетычны год. Па традыцыі святары блаславілі школьныя прылады і студэнцкія залікоўкі.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



У Гродзенскую ВДС вярнуліся клерыкі, каб працягваць паглыбленне сваіх ведаў і веры. У час канікул яны прымалі ўдзел у пешых пілігрымках, служылі сярод дзяцей і моладзі, дапамагалі ў вядзенні душпастырства ў многіх парафіях.

### АДНЫМ РАДКОМ

• Фэст Маці Божай Суцяшальніцы Засмучаных адзначылі ў старажытнай капліцы ў вёсцы Выгаляненты (дэканат Смаргонь). • Душпастырства "OPEN" зладзіла рэкалекцыі на байдарках. • Члены Легіёна Марыі з Гродзенскай дыяцэзіі прынялі ўдзел у рэкалекцыях у Баранавічах (Пінская дыяцэзія). • Моладзь з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне адпачыла ў польскіх Татрах. • Дзяўчаты з Сапоцкіна прынялі ўдзел у рэкалекцыях, арганізаваных сёстрамі серафіткамі ў Кальварыі Зэбжыдоўскай (Польшча). • Рэкалекцыі для мужчын прайшлі ў Навагрудку. • Сустрэча вілапілігрымаў адбылася ў Тракелях. • Удзельнікі трансмежнага семінара "Беларусь – Літва" наведалі святыні Воранаўскага раёна. • Семінарыст Віктар Рушлевіч з Вавёркі (дэканат Ліда) склаў вечныя манаскія абяцанні ў Ордэне Рэгулярных Латэранскіх Канонікаў. • У Смаргоні пры парафіі св. Міхала Арханёла адкрылі спартыўную пляцоўку. • Моладзь з парафій Беларусі, у якіх служаць ксяндзы міхаліты, сустрэлася ў Шылавічах (дэканат Ваўкавыск). • Удзельнікі Міжнароднай навукова-асветніцкай экспедыцыі "Дарога да святынь" наведалі парафію Найсвяцейшай Тройцы ў Росі (дэканат Ваўкавыск).

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by***.

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**17 верасня 1963 г.** – кс. прэлат Ігнацый Альшанскі, *проб. Жалудок;*
**17 верасня 2003 г.** – кс. Антоній Юсель, *проб. Граўжышкі;*
**19 верасня 1939 г.** – кс. Антоній Твароўскі, *проб. Юрацішкі;*
**21 верасня 1978 г.** – кс. Казімір Радзішэўскі, *проб. Індура;*
**23 верасня 1996 г.** – кс. прэлат Антоній Банькоўскі, *проб. Осава;*
**24 верасня 1939 г.** – кс. Ян Крынскі, *проб. Зэльва;*
**25 верасня 1933 г.** – кс. Ян Карвэліс, *проб. Дварэц.*

## АНОНСЫ

### АБ'ЯЎЛЯЕЦЦА НАБОР НАВУЧЭНЦАЎ НА КУРСЫ СЯМЕЙНАГА ЖЫЦЦЯ

**На курсах рыхтуюць сямейных дарадчыкаў, якія змогуць дапамагаць у парафіі пры падрыхтоўцы сямейных пар да сакраманту сужэнства, а таксама ў сямейнай кансультацыі.**

З'езды навучэнцаў адбываюцца раз на месяц на працягу 3-ох гадоў пры парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне (мікрараён Дзевятоўка).

**Для заліку на курсы неабходны наступныя дакументы:**
• уласнаручна напісаная заява аб прыняцці з матывацыяй свайго рашэння;
• уласнаручна напісаная аўтабіяграфія;
• рэкамендацыя ад пробашча;
• 2 фатаграфіі (3х4 см);
• ксеракопія дыплома аб заканчэнні навучальнай установы;
• ксеракопія пашпарта (старонкі 31–33).

*Запісацца на Курсы сямейнага жыцця могуць усе жадаючыя, якія зацікаўлены дабром сям'і. Запіс трывае да 10 кастрычніка па тэлефоне: (8 029) 588-42-73 – Ірына Мялешка.*

### У БЕЛАРУСІ ЎПЕРШЫНЮ АСВЕЦЯЦЬ СВЯТЫНЮ Ў ГОНАР БЛ. МІХАЛА САПОЦЬКІ

**Яна знаходзіцца на тэрыторыі парафіі Апекі Маці Божай у Дайлідках (дэканат Астравец).**

Асвячэнне касцёла адбудзецца ў аг. Станцыя Ашмяны 28 верасня ў 12.00. Урачыстую падзею ўзначаліць біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.

Вернікі разам з пробашчам кс. Алегам Шпенем шчыра запрашаюць усіх дабрачынцаў і людзей добрай волі стаць сведкамі знакавай падзеі.

### IV ФЕСТЫВАЛЬ МАРЫЙНЫХ ПЕСЕНЬ "MATER DEI" ПРОЙДЗЕ Ў БАРАНАВІЧАХ

**Да ўдзелу запрашаюцца хоры, ансамблі, салісты, дарослыя і дзеці, спяваючыя сем'і.**

**Умовы ўдзелу:**
• падрыхтаваць 2 творы (у тым ліку 1 – абавязкова на беларускай мове) акапэла або ў суправаджэнні аднаго музычнага інструмента;
• развучыць творы "Serdeczna Matko" і "Ты за сабою нас вядзеш", якія будуць выконвацца ўсімі ўдзельнікамі на пачатак і заканчэнне фестывалю.

Анкету ўдзельніка неабходна даслаць да 30 верасня на адрас: г. Баранавічы, вул. Т. Шаўчэнкі, 6 або mater.dei@tlen.pl.

Конкурс адбудзецца ў санктуарыі Маці Божай Фацімскай па адрасе: г. Баранавічы, пр. Савецкі, 18. Пачатак у 11.00.

*Даведкі па тэлефоне: (8 029) 227-38-84 – бр. Карнэліуш Консэк SVD.*

### ПІЛІГРЫМКА ЛУРД – ТУРЫН

**Аўтобуснае паломніцтва працягнецца 10 дзён. Выезд запланаваны на 4 кастрычніка.**

Пілігрымку арганізуе парафія ў Ваўкавыску. Яе праграма ўключае наведванне шматлікіх гарадоў Еўропы і святынь, між іншым, лурдскага санктуарыя і катэдры Нотр-Дам-дэ-Пары ў Францыі, катэдры ў Італіі, дзе захоўваецца Турынская плашчаніца, а таксама месцаў, звязаных з жыццём св. Бернадэты і св. Яна Марыі Віянэя.

*Падрабязная інфармацыя і запіс па тэлефоне: (8 029) 313-65-64 – кс. Алег Дуль, пробашч парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску.*

### РЭКАЛЕКЦЫІ ДЛЯ СУЖЭНЦАЎ, ЯКІЯ МОЛЯЦЦА АБ ДАРЫ ПАТОМСТВА, АДБУДУЦЦА Ў РОСІ

**Духоўныя практыкаванні будуць праходзіць у рэкалекцыйным доме з 11 па 13 кастрычніка.**

*Для ўдзелу неабходна абавязковая рэгістрацыя па тэлефоне: (8 029) 886-31-28. Па пытанні запісу просьба тэлефанаваць з панядзелка па пятніцу ў гадзінах: 11.00–12.00, 20.00–21.00.*

## Каляндар падзей

***18 верасня***
*Успамін св. Станіслава Косткі, манаха.*

***19–21 верасня***
*Квартальныя дні малітвы за дзяцей, моладзь, настаўнікаў і выхавацеляў.*

***21 верасня***
*Свята св. апостала Мацвея.*

***23 верасня***
*Успамін св. айца Піо з П'етрэльчыны, прэзбітэра і манаха.*

***27 верасня***
*Успамін св. Вінцэнта дэ Поля, прэзбітэра.*

***28 верасня***
*Успамін св. Вацлава, мучаніка.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Верасень***
*Аб развіцці апостальскіх спраў і малітоўных груп у нашай дыяцэзіі. Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Асвятленне падзей з жыцця Касцёла на Гродзеншчыне. Даступны фота- і відэаматэрыялы.*

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Анатолю Захарэўскаму**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, сілы і стойкасці ў выкананні нялёгкай паслугі, апекі Маці Божай і святога Заступніка на кожны дзень жыцця, а таксама шчодрых Божых ласкаў.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Міхалішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Віталію Внароўскаму**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, радасці, спакою, нястомнасці ў душпастырскай працы на кожны дзень. Заўсёды будзьце ахоплены прамянямі Божай міласэрнасці, Яго ласкай, апекай Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Заступніка. Шчасці Божа!

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Адэльска*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вінцэнту Лісоўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, шчасця, поспехаў, добразычлівых людзей побач, апекі Маці Божай. Няхай Усемагутны штодзённа дадае Вам сіл, аптымізму і надзеі на лепшае. Шчасці Божа!

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Ліды*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько**

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Ваш святарскі шлях будзе шчаслівы і блаславёны, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі. Няхай супакой і радасць паселяцца ў Вашым сэрцы, а ўсмешка ніколі не сыходзіць з твару. Жадаем шмат здароўя, сіл і стойкасці, а таксама моцнай веры, надзеі і любові.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Мастоў*

**Паважаным Айцу Пробашчу Валерыю Шэйгерэвічу, Ксяндзу Юрыю Жэгарыну, святарам і ўсім, хто дапамагаў у суправаджэнні фігуры св. Міхала Арханёла ў нашу святыню,**

прагнем выказаць словы ўдзячнасці за арганізацыю ўрачыстасці. Дзякуем за Божае слова, скіраванае да нас, за сведчанні. З надзеяй чакаем, што гэтая сустрэча прынясе добры плён, а св. Міхал Арханёл будзе берагчы нас і нашую краіну ад злога. Няхай Маці Божая выпрошвае для Вас патрэбныя ласкі, а Анёл-ахоўнік заўсёды будзе побач на нялёгкай дарозе святарскай паслугі.

*Парафіяне з касцёла св. Францішка Асізскага ў г. Свіслач*

**Паважанаму Айцу Эдуарду Пяцельчыцу**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, усіх Божых ласкаў і толькі радасных хвілін у жыцці. Дзякуем за тое, што Вы побач у кожнай патрэбе. Няхай Езус, якога штодзённа трымаеце ў сваіх далонях, благаслаўляе на святарскім шляху, а Маці Божая атуляе мацярынскай любоўю і апекай.

*З удзячнасцю і малітвай парафіяне і Францысканскі ордэн свецкіх з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

**Паважаным Ксяндзам Віталію Цыбульскаму, Артуру Валчкевічу і Юрыю Ёдзіку**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, Божага блаславення і людской зычлівасці. Няхай Святы Дух дапамагае выконваць душпастырскую паслугу і адорвае сваімі дарамі, а Панна Марыя падтрымлівае заўсёды і ўсюды. Няхай кожны дзень паслугі Богу і людзям прыносіць радасць і задавальненне. У малітве просім Бога, каб благаславіў Вас у кожнай справе.

*З удзячнасцю і павагай вернікі з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Радзюку**

з нагоды Дня нараджэння сардэчна жадаем шчодрых Божых ласкаў і толькі шчаслівых хвілін. Жадаем таксама несці Добрую Навіну, пашыраць радасць, надзею і любоў, быць знакам любячай прысутнасці Бога сярод Яго люду. Шчасці Божа!

*З дарам малітвы вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Паважанага Ксяндза Пробашча Аляксандра Раманоўскага**

віншуем з нагоды Дня нараджэння. Слухаючы і разважаючы кожнае Ваша слова, якое пранікае ў сэрца і душу, можам з упэўненасцю параўнаць Вас з добрым самаранінам, што з вялікай любоўю, пяшчотай і цеплынёй схіліўся над патрабуючым чалавекам. Вы вучыце нас дзякаваць за вялікія дары веры і звычайныя, простыя рэчы, якія спатыкаем штодня. Няхай кожны Ваш дзень стане прыемнай прыгодай на дарозе да святасці, а Святы Дух, які так адчувальна дакранаецца да Вас, няхай друкуе прыгожую кнігу Вашай працы на Божай ніве.

*Касцёльны камітэт і вернікі з парафіі Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Сарэлу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: Божага блаславення на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, дароў Святога Духа і шчодрага плёну на ніве Пана. Няхай здароўе, радасць і супакой ніколі Вас не пакідаюць, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі. Шчасці Божа!

*Люцыя Лабэцкая і Станіслава Сідаровіч з Воўпы*

**Паважанаму Ксяндзу Яцэку Маркелю**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай у гэты радасны дзень Хрыстос прытуліць Вас да свайго Найсвяцейшага сэрца і адорыць блаславеннем, здароўем і ўсімі патрэбнымі ласкамі на доўгія гады жыцця. Заўсёды памятаем пра Вас.

*Былыя парафіяне з Зэльвы – сем’і Трубей і Раманчук з Гродна*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Валчкевічу**

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, няспыннай апекі Маці Божай, а таксама моцнага здароўя, сіл, нястомнасці, зычлівых і добрых людзей на шляху служэння Богу і людзям. Мы дзякуем Вам за ахвярную працу, цярплівасць і добрае сэрца, а Вашым бацькам – за такога разумнага, культурнага, добрага сына.

*Удзячныя парафіяне з капліцы МБ Вастрабрамскай у Урцішках*

**Паважанаму Ксяндзу Віталію Цыбульскаму**

з нагоды Дня нараджэння сардэчна жадаем моцнага здароўя, непахіснай веры, сілы і цярплівасці ў душпастырскай працы. Просім Пана Езуса і Найсвяцейшую Панну Марыю, каб ва ўсім Вам дапамагалі. Шчасці Божа!

*З павагай і малітвай вернікі з касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Валчкевічу**

з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя на ўсё жыццё, душэўнага супакою, сіл, нястомнасці на кожны дзень нялёгкай святарскай працы. Жадаем таксама Божага блаславення і апекі Маці Божай. Няхай Святы Дух, Езус Хрыстус і ўсе святыя анёлы штодзённа абараняюць Вас. Няхай міласэрнасць, дабрыня і любоў да людзей нястомна будуць з Вамі. Сардэчна дзякуем за штодзёную працу ў нашай парафіі, а Вашым бацькам – за шчырага і добрага сына.

*З малітвай і павагай вернікі з парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні. Няхай у гэты радасны дзень міласэрны Езус прытуліць Вас да свайго найсвяцейшага сэрца, адорыць моцным здароўем, блаславеннем і ўсімі неабходнымі ласкамі на доўгія гады. Жадаем сталай апекі святога Заступніка і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Ваша жыццё будзе напоўнена святлом, радасцю і моцнай, непахіснай верай, а ўсе пастаўленыя мэты рэалізуюцца з Божай дапамогай.

*Былыя парафіяне з в. Галавенчыцы*

**Паважанай Сястры Марыі Стасевіч**

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, Божага блаславення на кожны дзень, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, нязгаснага запалу ў працы, натхнення. Няхай радасць спадарожнічае Вам кожны дзень, а Святы Дух асвятляе дарогу жыцця і дапамагае імкнуцца за Хрыстом.

*З малітвай удзячныя Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, здзяйснення ўсіх мар і намераў, а таксама стойкасці і зычлівых людзей побач. Няхай добры Бог Вас благаслаўляе, Святы Дух адорвае духоўным багаццем, а кожны дзень паслугі будзе напоўнены радасцю і спакоем. Шчасці Божа!

*Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і верныя парафіяне з Радуні*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Станіславу Пацыну**

з нагоды Імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: штодзённай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Заступніка, шчодрых Божых ласкаў і дароў Святога Духа. Няхай Ваш святарскі шлях будзе шчаслівы і блаславёны, а сэрца заўсёды цешыцца з плёну працы. Будзьце святаром на ўзор Езуса Хрыста і праз прыклад сваёй веры надалей асвячайце людзей і давайце сведчанне сапраўднага хрысціяніна. Шчасці Божа!

*Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і верныя парафіяне з Радуні*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку**

з нагоды 16-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем моцнага здароўя, радасці і поспехаў у душпастырскай паслузе. Няхай Езус Хрыстус ва ўсім Вам дапамагае, Маці Божая ахінае любоўю і апекай, а Святы Дух спасылае свае дары.

*Удзячныя парафіяне з Поразава*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Жураўскаму**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Езус Хрыстус, наш Збаўца, напоўніць Ваша сэрца спакоем, радасцю і надзеяй, дапаможа пераадолець цяжкасці і стане крыніцай святасці ў сённяшнім свеце. Жадаем моцнага здароўя, спакойных дзён і добрых людзей на святарскім шляху. Няхай Маці Божая ахінае Вас сваёй апекай, а святы Заступнік дапамагае ў кожную хвіліну жыцця.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Яцэку Маркелю**

з нагоды Імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: здароўя, душэўнага супакою, цярплівасці, моцнай веры, надзеі, зычлівасці і пашаны ад людзей. Няхай Бог, які ўказаў Вам шлях да святарства, дапамагае ў рэалізацыі паклікання, абвяшчэнні Божага слова і пашырэнні Яго Валадарства на зямлі.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Зэльвы*

**Паважанаму Ксяндзу Уладзіміру Аксенцьеву**

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, радасці, доўгіх гадоў жыцця і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай прамяні Божай міласэрнасці асвячаюць святарскі шлях, Святы Дух спасылае шчодрыя дары, Бог Айцец нястомна благаслаўляе, а Анёл-ахоўнік мае ў сваёй апецы заўсёды і ўсюды.

*Парафія Лядск, вёскі Еўлашы, Доўгая, Багданы*

**Паважаным Ксяндзам Артуру Валчкевічу і Віталію Цыбульскаму**

з нагоды Дня нараджэння жадаем патрэбных ласкаў ад Усемагутнага, апекі Маці Божай і святых Заступнікаў, дароў Святога Духа, мудрасці, спагадлівасці і натхнення на кожны дзень жыцця. Няхай дарога, якую Вы выбралі, будзе шчаслівай і добрай, а святарская паслуга прыносіць шчодры плён. Шчасці Божа!

*Легіён Марыі, апостальства “Маргарытка” з парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

**Паважанаму Ксянзу Пробашчу Міхалу Стэцкевічу**

з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, мудрасці і цярплівасці. Няхай добры Бог адорвае блаславеннем, а Міхал Арханёл возьме пад сваю асаблівую апеку. Дзякуем за Вашу шчырасць, добразычлівасць і ахвярную святарскую працу. Заўсёды памятаем пра Вас у малітвах.

*Вернікі з парафіі св. Казіміра, Першамайск-Нецеч*

Сардэчна дзякуем усім, хто прымаў на начлег, частаваў пасілкамі, з вялікай зычлівасцю сустракаў удзельнікаў сёлетняй пешай пілігрымкі з Гродна ў санктуарый Пана Езуса Журботнага ў Росі. Асаблівым чынам дзякуем жыхарам вёсак Станевічы і Бурнева, а таксама навакольных вёсак за вялікую гасціннасць і цудоўны клімат. Выразам нашай удзячнасці з’яўляецца малітоўная памяць. Узгадваем пра Вас перад Богам і молімся, каб Усемагутны адорваў Вас патрэбнымі ласкамі.

*З удзячнасцю і выразамі павагі ўдзельнікі XVIII Пешай пілігрымкі Гродна – Рось*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш; тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: slowo.grodnensis@gmail.com**; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 3550; тыраж 5045; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная